Перад Вамі – першая кніга вершаў Маргарыты Латышкевіч, аднаго з пастаянных аўтараў часопіса “Маладосць” і штотыднёвіка “ЛіМ”. Творы, сабраныя ў зборніку, прысвечаныя самым розным тэмам: тут можна знайсці і філасофскія развагі, і пейзажныя замалёўкі, і ўрбаністычную лірыку (што нядзіўна для паэта-гараджаніна), нават – збольшага жартоўныя вершы.

Гэтая кніжка прэзентуе станаўленне аўтара за апошнія некалькі гадоў, што само па сабе цікава. Апрача таго, пры ўсіх эксперыментах у форме і змесце, кожны твор скіраваны як да дыялогу з чытачом – з Вамі, – так і да дыялогу з папярэднікамі, з мэтрамі, з класікамі.

Аўтар шчыра перакананы, што толькі ў **су**размоўі, **су**працоўніцтве чытача і пісьменніка палягае аснова плённай творчасці. Таму натуральна, што кніга арыентаваная на шырокае кола чытачоў – аматараў беларускага слова і проста цікаўных.

## *Слова ад мэтра*

Маргарыта Латышкевіч – зіхатлівая зорка, што ўсё ярчэй і ярчэй разгараецца на небасхіле нашай чароўнай Паэзіі. І, магчыма, мне, як нічому іншаму, вельмі прыемна гэта ўсведамляць і назіраць за такой таемнасцю, як нараджэнне Паэта, чараўніцы, што працуе з мастацкім словам. З аднаго боку, прыемна таму, што менавіта "Маладосць" адкрывала гэтае ўжо даволі прыкметнае імя ў айчынным прыўкрасным пісьментсве, а з другога – Маргарыта Латышкевіч родам з Берасцейшчыны, той зямлі, дзе завязваліся і дужэлі непаўторныя і магутныя таленты Жэні Янішчыц, Ніны Мацяш, дзе так плённа і сёння працуе ў літаратуры Зінаіда Дудзюк… Жанчыне не проста жыць штодня ў творчасці, але ўсё кампенсуе Талент, ён – той агеньчык, агонь, які сілкуе не толькі пачуцці душы, але і таямнічай аўрай асвятляе, пасылае праменне святла ў прастору, здаецца, што і ў вечнасць.

Я гэтак тлумачу назву зборніка вершаў Маргарыты Латышкевіч. Яе радкі, у якіх адчуваецца няспынны пошук, імкнуцца насустрач Вечнасці, а сама паэтка насустрач усім сваім адкрыццям і поспехам ідзе "месяцовай сцежкаю". І я ёй жадаю на гэтым шляху самай вялікай творчай удачы!

*Раіса Баравікова, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Купалы*

## Крэда

Вера мая – знявер’е.
Белай паперы пер’е
Ліпне да рук, бы косы
Дажджоў сярэбравалосых.

Вера мая – надзея.
Простасці кветка – лілея –
Белая;
Хочаш – лісты
Шлі ў куродым густы.

Вера – мая слабасць.
Так надыходзіць сталасць,
Так ападае стыхія…
Зірнеш – валасы й сівыя.

## Джут дажджу

Грозныя грому раскаты пахнуць лавандай і бэзам,
Ціха ўздыхае зямля, уся ў прадчуванні дажджу.
Хмараў сырое радно роніць маланкі з разрэзаў,
Звівае валокны вады ў звонкі сярэбраны джут…

## Кот і Дождж

Кот за акно не глядзіць – нуда!
Льецца і льецца сабе вада.
Неба шарээ, нібыта хвост:
Хмара разлеглася ў поўны рост.
Некалькі дзён апантана лье,
Дзынкае, стукае ўсё па шкле.

Рацыю маеш ты, коце. І ўсё ж
Я не магу не глядзець на дождж.

Бэз

Дзень сырым дажджом аглушаны.
Дробным срэбрам сыпле спрэс,
Дыяментамі нязмушана
Упрыгожваючы бэз.

А апошні, трохі стомлены,
Фіялетавы, як змрок,
Выпешчаны сонца промнямі,
Голаў нахіліў набок.

Задуменны і засмучаны,
Бэз цікуе, як за шклом,
З цёплым полымем заручаны,
Свеціць чалавечы дом.

***

Крыніца зіхоткіх пялёсткаў вады –
Хмурнае неба сумнай Радзімы;
О, гэты дождж
у цэлым свеце адзіны,
І крокі яго ў цэлым свеце –
адны.

Спешчаны, выгушканы
ў аксаміце
шэрых сукенак з карункамі
хмар,
усю безнадзейнасць
і бездань усю мар
ён увабраў,
разам з сонцам у блакіце.

Слёзны –
салоны й ледзь горкі на смак, –
дождж нарадзіўся
з Паўночнага мора,
і ціхімі ўздыхамі
мора паўторыць
вальсавы хваляў завучаны такт.

Крыніца зіхоткіх пялёсткаў вады –
Хмурнае неба сумнай Радзімы;
О, гэты дождж
у цэлым свеце адзіны,
І крокі яго ў цэлым свеце –
адны…

***

Ходзяць хмары, за імі - мгла,
Камякі бялёсай тканіны,
Не разлог, не палёт птушыны –
Спарахнелага шэрасць радна.
…Ёсць мясціна, дзе дождж прайшоў,
Дзе ўказуе на скарб вясёлка,
Дзе лугі – як зялёны шоўк
(ў іх гудуць залатыя пчолкі).
Дождж міне і пакіне спакой –
Ціхі-ціхі, празрысты і спеўны.
Ўскіну твар – і тады над сабой
Я **пабачу** блакіт, напэўна.

***

Дождж умые, а час – палечыць,
Завірыць парой адцвітання.
У жыцці так многа сустрэчаў,
У жыцці так многа расстанняў.
Ты ці слухаеш, весні вецер?
Пад тваімі далонямі дрогкі,
З глыбіні рачной месяц свеціць,
Ціхі ўздых – ад сэрца – палёгкі.
Мне цябе не ўтрымаць. Крылаты,
Ў небе ты пра зямлю не ўспомніш:
Памяць – крылаў тваіх аплата…
Памяць – скруха сярэбранай поўні.

***

Набрынялыя вадою хмары
Дождж прынеслі, свежасцю спавіты;
Свежы, загусцелы, сакавіты,
Ён зіхціць, нібы ўначы Стажары.
Выліналы за зіму бярэзнік
Сквапна ловіць стрыманыя кроплі,
Калі іх вясны сыры прадвеснік,
Вецер гаманкі ў далонь падхопіць.
Узмыленыя, у нашым вечным крузе,
Стомаю зарослыя, не бачым,
Што вясна даўно царуе ў лузе,
Што вакол ўсё жыве іначай.
І перакіпелыя жаданні
Ці не ажывуць парою весняй,
Калі ўсюды кветкі і каханне
І калі ўзыходзяць з сонцам песні?
І ўвесь свет – і знаны, і нязнаны, -
Радасцю ахоплены вясновай,
Просіцца радком стаць вершаваным
І сябе знайсці ў гаючых словах.

Перакулены Горад.

Там турыстаў не бывае –
Толькі звонкіх люстра хваль
Абдымае,
Наплывае
І нясецца прэч і ўдаль.
Сон густы прыкрые Горад,
Ноч запаліць ліхтары –
Перакуленыя зоры
Ў электрычным зыркім моры
Будуць плаваць да зары.
…А пад мостам, сіні, цьмяны
Выплывае з глыбіні
Мост другі – згібасты, льсняны,
Ўбраны ў вадкія агні.
Ліхтары старыя спіны
Гнуць да цёмнае вады,
Каб пабачыць дахі гмінаў
І падводныя сады.
А калі зазвоніць ў цэрквах
Гулкі, гучны, дзіўны звон
Над ракою, быццам рэха,
Ледзьве-ледзьве чутны стогн:
Быццам пад рачным сутоннем,
Расхістаны, звон раве –
Толькі медны голас тоне…
Закалыханы ракою,
Хваляў ён не ўскалыхне.
І, зняможаны, спіць Горад…
Сон лунае над ракой,
Абдымае, наплывае,
Зоркі
Ў хвалях калыхае,
Серп вядзе на вадапой.
Бляклы цень або адбітак?
Вечны вязень глыбіні,
Суразмоўца мой нязбытны
Лічыць ззяйкія агні.
Крочыць снег па воднай плыні;
Холад – сцверджанне быцця…
Горад пад ракою стыне,
Ды пытаннем не абміне:
Можа быць, адбітак – ***я*** ?

## Ліхтары

Прамень апошні сонца
Дагарыць –
І ліхтары,
Нагамі дагары,
Пасыплюцца
Іскрынкамі ў ваду –
Каб вечар іх,
Як свечкі,
Не задзьмуў.

***

Камяні прыпомняць крокі,
Рэху напяюць. Зірні –
З хмараў месяц вірлавокі
Лічыць горада агні.
Можа быць, аднойчы ноччу
Цераз мост, насустрач мне
Мой адбітак, цень пакрочыць,
Проста ў вочы зазірне.
Абясцэньваюцца словы.
І, нібыта ўпершыню,
Вымяраеш лотам новым
Самасці ты глыбіню.

***

Неба меркне. Адгарэлы дзень
Слаба тлее ў гарадскіх вітрынах.
Між агнёў неонавых няспынных
Шлях згубіў свой залаты прамень.
Вусціш рэха напаўняе сквер,
Цішыня ідзе насустрач змроку.
Лісце шэпча – пэўна, ад сурокаў –
У сугуччы з музыкаю сфер.
На мяжы няпэўнага святла
Балансуюць, як эквілібрысты,
Сны людскія. Полымем іскрыстым
Дзень у небе дагарэў да тла.

***

Чалавечае мора –
Горад.
Дробных вуліц малыя плыні,
Старых паркаў і скевераў пустыні,
А праспекты і магістралі –
Быццам волгі або дунаі.
І я – кропля,
І ты – таксама.
Успамінаю радкі Хайяма:
*"Дробным кроплям вядзе акіян улік,*
*З парушынак складаецца мацярык.*
*Твой прыход і сыход не маюць значэння –*
*Быццам муха ў акно заляцела на міг".*
Кроплі мы –
Ў чалавечым моры.
Але разам чамусьці –
Горад.

## Гэты Горад

Гэты Горад – няшчасны горад:
Ён прыгожы й самотны ў змроку,
Калі срэбрам густым – ад сурокаў-
Кропіць дождж чалавечае мора.

Гэты Горад – фата-маргана.
Рэха крокі між каменю множыць
І губляецца ў бездарожжы,
У блёклым покрыве з рос ды туману.

Гэты Горад – чыясьці прыдумка.
Увесь сатканы з бязважкіх сненняў,
Ён і ўдзень, і ўначы бурнапеніць,
Хоць – бязгучна – просіць: “Ратунку!”

***

Мне прысніўся старажытны горад –
Зваўся ён у сне маім Парыжам.
Працінае хмары дах сабора,
Цягнучы ўвесь Горад трохі вышай.
Плошчаў шум і ціша цесных вуліц,
Вусцішныя статуі, скляпенні…
Вір. Натоўп. І ў чалавечым тлуме, -
Са званніцы ціхае маленне.
Мне прысніўся старажытны горад –
Зваўся ён у сне маім Парыжам -
І ляцеў, бязважкі, за саборам,
Сярод хмар, да сонца – вышай, вышай...

***

Горад спіць, і гаснуць вокны,
Ноч ступае, быццам кот,
Коціць ў небе, між аблокаў,
Лапкай месяц-ціхаход,

Вылівае чорнай гушчай
З крынкі цемру на зямлю;
А ў двары, ў бетоннай пушчы
Кот выводзіць “I love you”.

У калюжынах дрыготкіх –
Перакуленыя сны;
Іх, як рыбак, ловяць коткі,
Веставыя ад вясны.

Шэры кот гадзінай шарай
Наступіў на небакрай
І разліўся пульхнай хмарай:
“Прывітанне, ранак. Hi[1]!”

[1] англ. “Прывітанне!”

***

Па зорнай лесвіцы – уверх, да месяца…
Там – сонца весніцы,
Там чары месцяцца
І казкі песцяцца.
Прыступкі звонкія, як промні, тонкія,
А зоры – гронкамі
З крышталю ломкімі,
Як свечкі, свецяцца.
Глядзяць-дзівуюцца
На нашы вуліцы,
Агні машын, і ліхтары,
І ўсё, што ззяе і гарыць.
Мяркуюць: новы небасхіл.
І выбіваючыся з сіл,
Стараюцца перасвяціць –
Усё, што ззяе і гарыць.

## Адна ноч

Ноч, як рыба, хапае ротам
Месяцовую светлаваду,
І ліхтар аднаногі гаротны
Раскудлачыў сваю бараду.
Задыхаецца ноч. Сыпле лускай
Залацістае лісце на дол,
І, ашчадны па-беларуску,
Яго вецер складае ў прыпол.
Ноч канае, як рыба. Я, можа,
Ўсё былое пакіну ўбаку
І, празрыстую гладзь патрывожыўшы,
Адпушчу гэту рыбу ў раку…

## Кніга

Мацуо Басё…
Я баюся крануцца старонкі –
Тут, у святле прыгажосці, як гронкі
Найлепшага вінаграду,
Як кроплі празрыстага вадаспаду,
Спеюць Ваша радасць і гора,
Так, Мацуо Басё?
…Як мора,
Бясконцая, чыстая, светлая радасць,
Тужлівая, сумная замілаванасць
Усім, што мінецца
І што застанецца
Па волі Вашай у росчырку льсняным…
Паэт Басё ад красы толькі п’яны
І плача, як плача роснае ранне,
Нібы дзіця,
Ад замілавання.
І спеліць душа празрыстыя крылы,
І горыч обрыдлую ў сэрцы змыла,
І як ажывіць сваім словам Усё,
Як гэта рабіў Мацуо Басё?

## Стылізацыі

Паэтам Японіі, і асабліва – непараўнальнаму Мацуо Басё,
з усім захапленнем і павагай.

Хто ведае, як
Спяваюць пад ветрам травы?
Не ты, дамаседзе млявы,
А сябар мой – вольны птах,
Скажы, ты ж ведаеш, як
Спяваюць пад ветрам травы?

Што ж, можа па горным снезе
Прайсці і пачуць іх песні?
Ды як нам снягі пакінуць,
Калі іхні подых – весні?

І нават калі мы дойдзем
Да самай вяршыні высьняй,
Падмане нас белае воблака –
Падасца ў квецені вішняй…

Вакол будуць спевы цыкады
Ды ўздыхі сіняй прасторы…
Так… яно – невычэрпнае
І такое ласкавае мора.

А там, на цёмным ўзбярэжжы, –
Які відарыс адзіноты! –
Ў хаціне пад меднай хвояй
Вокны ззяюць з пяшчотай.

Ды хіба агні у вёсках
Могуць кагосьці прывабіць?
Тут, пад месяцам ясным,
Вішнёва-белая замець…

***

Дж.Р.Р. Толкіну

Мяне клічуць выявы далёкіх краёў,
Невядомых мне берагоў,
І сумуе, і скардзіцца сэрца маё,
І шукае надзейны схоў.
Кожны вечар свае мне весткі нясе,
Свае весткі, а з імі – тугу,
І я бачу мой Край у сапраўднай красе,
І дайсці да яго не магу.
Я трапляю ў жаданы Край толькі ў сне,
І я ведаю, што я сплю.
Калі снішся ты мне
У красе і вясне,
Дык чаму ж я цябе люблю?

## Перавага Маякоўскага

Аднойчы,
Адпачываючы цёмнай ноччу
На тэлевізійнай антэны навершы
Сонца з маноклем
Чытала вершы.
Чытала –
І раз’юрылася:
“Гэта
Проста паклёпнікі,
Не паэты!
Мяне
не ўзводзяць у ранг героя,
а раздзіраюць метафар роем!
На твар жаночы,
Ліхтар уночы,
Ці проста водбліск
Ў лазовай гронцы
Кажуць:
Маленькае, бач ты, сонца!
Ну не, не хачу я
Ніколі больш знацца
З аўтарамі
Такіх прафанацый!”
Сказала – зрабіла
(у сонцы – сіла).

І з той пары
сярод аўтараў вершаў
для сонца
спадар Маякоўскі –
першы.

***

Кожны – Байран на свой манер**;**
Хтосьці белыя носіць кашулі
і пярсцёнкамі пальцы муштруе,
на дуэлі каб чорную рулю
ў час належны
падняў рэвальвер.

Кожны – Байран на свой манер;
Хтосьці покліч краёў далёкіх
ўчуў, і месяц цяпер вірлавокі
разразае бялюткім бокам
порсткай шхуны
пад музыку сфер.

Кожны – Байран на свой манер;
Хтось плыве адно па чарніле,
Апяваючы тын пахілы,
Родны кут, назаўсёды мілы,
Несучы на далонях папер.

Кожны – Байран на свой манер;
Нехта плавае, нехта страляе,
Хтось радком сваім ў сэрцы цаляе.
Некаторыя ж –
толькі кульгаюць:
**Кожны – Байран на свой манер…**

***

Чытай паміж радкоў. Бо тайнапіс нябачны
Хаваецца за шырмай
Дробных з’яў нязначных.
Скажы маўчаннем – усё. Бязгучнасці – размовы.
Я з некаторых пор не давяраю словам.
Адэптам цішыні, прарокам таямніцаў
Зрабіся.
Загадай заслонам адчыніцца.
Будзь пілігрымам.
Руш праз спёку і завеі
Да п’едэсталу дум,
Да мары,
Да Ідэі.

Пульс навальніц

Вецер трымае руку
На пульсе
Ўсіх навальніц –
І не адпусціць.
Ніц
Падае зжоўклае лісце –
То вецер
Лістоў калоніі чысціць.
Зацяты і жорсткі,
Халодны і шорсткі,
Кідае ў студню
Лістотаю – будні.

А ліст няўлоўны
Па-свойму шчаслівы,
працяты
– распяты –
холадам.
Дзіва?..

“Ню”

І вось – пейзаж у жанры “ню”,
І восень мерыць глыбіню
Нябёсаў ссохлымі лістамі.
І целы дрэў ў адной паставе
Застылі,
Згубленыя ў плыні
Сухіх лістоў
Да яснай сіні.

***

На даляглядзе
– як пёрка –
лунае між хмарамі
просінь.
У лістападзе,
У зарападзе –
Восень.
Спелых лістоў
Залатыя твары
Плачуць.
Ціхім дажджом
Напаёныя мары
Скачуць
Кроплямі ў лужыны…
Вецер прастуджаны
Ў лета лісты
Носіць.
Кружыцца вальсава
Следам за ім
Восень.

***

Пыркі салонай вады – зоры.
Праблiскамі напоўнена мора.
Ступіш на хвалю ціхаю ноччу –
І месяцовую сцежкаю крочыш.

Пырскі салонай вады – чайкі.
Кружаць над морам,
стогнуць адчайна.
Белыя ветразі – белыя крылы:
Воблака ў небе ў здзіўленні застыла.

Пырскі салонай вады – слёзы?
Плачуць крывёй вінаградныя лозы.
Плачуць – але вяртаюцца ў дом
Не салонай вадой, а салодкім віном.

Пейзажная замалёўка

Цені. Сутонне. Вечар.
Шумных каштанаў плечы,
Як крыж свой,
нясуць між дамоў
Воблака – месяца схоў.

***

Я чакаю цябе, квецень вішняў,
Пацалунак вясны нявінны.
Сонца – гэты садоўнік увішны –
Гне над голлем старую спіну.
У цёплых промнях сэрца растане:
“Вырай – тым, хто будзе, як дзеці”.
Я ўсміхаюся. Я чакаю,
Пацалунак вясны – квецень.

## Слота

Непаслухмянымі пальцамі,
Аслізгаючыся
Ў нотах
Дзынкае фартэпіянна
Слота.
Тут, на мяжы
Ўсіх сезонаў –
Свая, асобая зона:
Тут – капяжы.

***

Буслы збіраюцца ў чароды,
Бадзяюцца сярод лугоў,
І павуцінкі карагоды
Вядуць між ніклых мурагоў.
Варожаць вораны на шчасце
Па шумным гневе навальніц;
Шкада: асуджана прапасці
Уся праца летніх чараўніц.
Іх кросны рве залётны вецер,
Дажджы руйнуюць палатно.
…і ўсё-ткі, хараша на свеце
Патроху ткаць сваё радно.

## Бабіна лета

Верасень. Шумлівыя вяселлі
Правіць вецер на ўзбярэжжы рэк.
Хмары між блакіта пустазеллем
Рэдка роняць слёзы з-пад павек.
Жаўталісця шапяткой віхурай
Крочыць восень ціхаю зямлёй,
Дуб стары, засмучаны, пануры
Ўкрыўся трапяткою сівізной.
Дрогкае пад ветрам павуцінне
Калыхаецца і ў промнях залатых
Чоўнікамі казачнымі гіне,
Пагубляўшы рулявых сваіх.
Патыхаючы празрыстым сумам,
Ў гэты час зямліца сонца п’е.
І прыходзяць нечакана думы –
Аб няблізкае яшчэ вясне.

***

Верасня няпэўная імгла**.**
У ёй зімы прыход – пытанне веры.
Восень шапяткім агнём ўзышла
На галовы прасвятлёных дрэваў.

Аванпост няблізкае зімы –
Шэрань на па-летняму зялёных
травах,
тонкі водар чарназёму
ад хмарын, вялізных,
як сам**ы**.

***

Сонца корміць маннай кашай
Паркі і сырыя скверы,
А ў рацэ  гарбата стыне
(асабіста мне – без цукру).
Вецер праз акно латашыць
Мягкай лапаю паперы,
І чамусьці пахне дыней
Ад калюжыстага бруку.

Вымыў дождж двары і сходні,
Вокны, дзверы і балконы
І за ноч паспеў аддзерці
Плямы жоўтага святла;
Спрацаваўся – і адходзіць
Дзесь за горадам сягоння.
А пакуль што могуць дзеці
Свежы брук размаляваць.

## Ранак

Ранак. Гоман ранніх птахаў.
Ў вышыні, на дахах – сонца.
А ў дамоў, у шэрых гмахаў,
Ззяюць люстрана ваконцы.
Пахнуць сырасцю прыступкі,
Кружыць вальсам пыл у промнях.
Вецер згоніць рэшткі смутку
Пацалункамі на скронях.
Халадок. Званчэй і гушчай
Паўтарае рэха крокі.
Праз акно відаць, як лушчыць
Дахі кран небавысокі.
Час сплывае. Сонца – ніжай.
Ранак птахам рвецца з рук.
Вецер з дахаў сонца зніжа
І шпульне на цёмны брук.

***

Парашутысты

У небе чыстым –
Як быццам семкі на сінім фоне.
А верталёт –
Як пpарок на Афоне –
Раскінуў лопасці і ўздыхае:
Колькі ні скідваў,
Яны не ўзлятаюць...

## Позні жнівень

На крок мы апярэдзім лістапад
І выйдзем з-пад завесы жаўталісця.
Асенні вецер далягляд ачысціць,
Каб хмары не вярнуліся назад.
Сухіх лістоў ласкавыя далоні
Пяшчотна гладзяць нас па валасах,
А заўтра будуць – пад нагамі прах,
Пыл беспрытульны на рачным улонні.
На крок мы апярэдзім лістапад –
З апошнім лета водбліскам на тварах –
Пакрочым ў небе і, як тыя хмары,
Ніколі больш не вернемся назад…

***

Лямпа на стале –
Зыркае вока музы.
У руцэ – пяро.

***

Шэрай авечкай
Пасвіцца ў небе хмарка,
А вецер – пастух.

***

Ласкавы вецер
Туліць над ракой вярбу.
Шэпча лістота.

***

“Восень прыйшла!” – мне
Шэпча вецер. Падарыў
Залаты лісток.

***

Мые бялізну ў люстры
Возера верба.
Заціхае ў небе дзень.

Восеньскія хайку

*

Ліст упаў – або
То матыль жаўтакрылы
З галіны зляцеў?

*

Нажніцы ветру
Карнаюць валасы дрэў –
О, Бязлітасны!

*

Сонца маё, ты –
Восеньская сівізна
На скронях бяроз…

*

Нікнуць галовы
Ціхіх кветак садовых.
Смерць? Сон? Ці – восень?..

*

Рэха паўторыць
Слёзныя шэпты поўні,
Ды вечар згасне.

*

Дождж. Водар сыры
Ноздры казыча. Сыпле
Дробнае срэбра.

*

Парасон туліць
Да сэрца мяне. Мокне
Сам, абаронца.

*

Лету вярнуцца
Ахвота, як нам усім –
Пайсці ў дзяцінства.

*

Ліхтары хрысцяць
Прыцішаную раку
Ў новую веру.

## Пацеркі хайку

***

Сінявокі дзень –
На самоту асуджаны:
Позняя восень.

***

Холад за акном,
Холад у душы тваёй, -
Што першаснае?

***

Кволыя ўсмешкі
Дорыць сівая поўня
Адбітку ў рацэ.

***

Зачыню акно.
Нагадаў ты мне, месяц,
Іншую поўню…

***

Мяккаю лапай
Вецер хмары кратае.
Выявы ў рацэ.

***

Ў зорнае сіні
Пантофлік сярэбраны
Хтосьці згубіў.

***

Горад вуркоча,
Засынаючы, гэтак
Па-кацінаму.

# Фінал

***

Песцяць песні мае далоні…
І, даверлівыя, як птахі,
Песні веюць крыламі на скроні,
пер’е ронячы з апранахі.
Разразаючы вострым крыллем
Купал неба  і покрыў мора,
Прычакаўшы, калі ў знясіллі,
Ападаць будуць спелыя зоры,
Песні-птахі лятуць. Няспынна
Плёскат крылаў іх за акаёмам –
Старажытны, трывожны, былінны,
Запаветны, загадкавы, стромы.

# ЗМЕСТ